Цана асобнага нумару 17 грошаў.

# Сын Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 2 злотыя
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 20. Вільня, Серада, 30-га ліпня 1924 г. Год I.

## 10-гадзінны дзень працы.

Тыя працоўныя масы Польшчы, якія сваімі мазалістымі рукамі клалі фундамэнты польскае дзяржаўнасьці, а пасьля сваей крывёй баранілі яе, напісалі на сваіх штандарах зусім выразныя сацыяльныя дамаганьні: 8-гадзінны рабочы дзень—для работнікаў, зямля—для малазямельнага і беззямельнага сялянства.

Здавалася, што ў „дэмакратычнай“ Польскай Рэспубліцы ня можа быць ніякіх перашкод дзеля правядзеньня гэтых лёзунгаў у жыцьцё. I вось мы бачым, што ўнармаваньне дня працы адбываецца згодна з дамаганьнямі працоўных масаў, а сьледам за гэтым закон аб зямельнай рэформе, прыняты Устаноўчым Соймам, суліць і сялянству зьдзейсьненьне ягоных лятуценьняў.

Але за кароткі час істнаваньня Польскае Рэспублікі ўлада ўсё больш пераходзе ў рукі аднае клясы — польскае буржуазіі, і інтарэсы працоўных з кожным годам усё далей адыходзяць на задні плян!

Першай ахвярай гэтае перамены зьяўляецца сьмерць зямельнае рэформы, якая „памерла, не пабачыўшы сьвету“: да правядзеньня яе ў жыцьцё так і не прыступілі... Цяпер інтарэсам працоўных нанесены новы ўдар: касуецца 8-гадзінны дзень працы і замяняецца 10-гадзінным.

Пазбаўленьне работнікаў Польшчы іх вялікага сацыяльнага заваяваньня распачаў міністар працы, п. Даровскі, які даў загад аб прадоўжаньні дня працы з 8 да 10 гадзін у Горным Сьлёнску. Міністар тлумачыць гэта тым, што з прычыны ўвядзеньня 10-гадзіннага рабочага дня ў Нямеччыне, (— якую да гэтага, папраўдзе, прымусіла Францыя захватам Рурскіх капальняў і вялізарнай кантрыбуцыяй), горна-сьлёнскае вугальле і польская прамысловасьць ня могуць канкураваць з нямецкай дзеля таго, што апошняя можа прадаваць свае вырабы шмат таньней за Польшчу, гдзе работнікі працуюць толькі 8 гадзін у дзень і, значыць, менш могуць вырабіць.

На першы пагляд можа паказацца, што гэта зусім справядліва. Але, прыгледзіўшыся да гэтае справы глыбей, мы будзем прымушаны зрабіць вывад зусім адваротны.

Перш за ўсё трэба адзначыць, што павялічэньне рабочага дня ў горна-сьлёнскіх капальнях на *дзьве гадзіны* зусім не ратуе палажэньня Польшчы, як канкурэнткі Нямеччыны. Мы прывядзем тутака дужа цікавыя цыфры, пададзеныя на адным з апошніх пасяданьняў Сэнату сэнатарам Гэмпэлем (н.-д.).

Вось-жа сэн. Гэмпэль аблічыў, што нямецкі работнік працуе 307 дзён у год, абс, робячы па 10 гадзін у дзень, 3070 гадзін у год. Польскі работнік, працуючы па 8 гадзін у дзень, робіць 292 дні ў год, а лічучы на гадзіны і адкінуўшы одпускі і інш., — 2147 гадзін. У прадукцыйнасьці працы польскі работнік так сама вельмі адстае ад нямецкага; адпаведныя цыфры прадукцыйнасьці працы будуць: для нямецкага работніка — 117, для польскага — толькі 50!... Гэтак, каб павялічэньнем рабочага дня дабіцца зраўнаваньня вытворчасьці працы польскага работніка і нямецкага, трэба-бы ў Польшчы павялічыць дзень працы не на чацьвертую часьць, а бо...

Гэта, ведама, немагчыма. I вось, польскія капіталісты, пазбавіўшы польскага работніка — пры дапамозе ўраду — 8-гадзіннага дня працы, пасягаюць ужо і на яго заробкі, дамагаючыся, як піша „Gaz. Warsz.“, каб работнікі на Горным Сьлёнску згадзіліся на зьменшаньне іх заработнае платы на 30%!

Ясна, што такой цаной — цаной вымарываньня голадам сваіх працоўных масаў і заваліваньнем адначасна церазмернай работай Польшча ўсё роўна ня здолее зраўнавацца з Нямеччынай у вытворчасьці сваей прамысловасьці, працуючай, як выясьнілася ў соймавай дыскусіі, на дапатопных машынах, бо капіталісты ня хочуць на новыя рабіць ніякіх затрат. I нават калі-б польскія работнікі згадзіліся, падобна нямецкім, сваім коштам ратаваць польскіх прамыслоўцаў, калі-б захацелі плаціць *дабравольную кантрыбуцыю сваім капіталістам*, як былі прымушаны зрабіць немцы, каб сплаціць кантрыбуцыю перамогшым іх дзяржавам — дык вынікі гэтага для Польскае дзяржавы былі-б дужа невялікія.

Горна-сьлёнскія работнікі, як відаць з газэт, і ня думаюць згаджацца на такую ахвяру. На Горным Сьлёнску пачаўся шырокі забастовачны рух А адначасна пачаліся і сельска-гаспадарскія забастоўкі: у Паморыі ў некалькіх паветах кінулі працу нанятыя на летнія работы працаўнікі, дамагаючыся вельмі значнага павялічэньня заработнае платы.

Усё гэта — вынікі таго сацыяльнага укладу сіл, які вытварыўся ў гаспадарстве і ў яго Сойме: склад апошняга так мала адпавядае першаму, што працоўныя масы ня бачаць у ім абаронцы сваіх слушных дамаганьняў і пачынаюць шукаць пазапарляманцкіх дарог.

## УРАДЫ і НАРОДЫ.

*(У дзесятыя ўгодкі Вялікай вайны).*

1 жніўня новага стылю мінае дзесяць гадоў ад дня, калі — ў адказ на мабілізацыю заходніх ваенных акругоў, якой расейскі ўрад хацеў падтрымаць аднаверную Сэрбію проці гатовай праглынуць яе Аўстрыі,—Нямеччына аб'явіла вайну Расеі...

Адна па аднэй — Францыя, Сэрбія, Аўстрыя, Бэльгія, Англія, Італія, Баўгарыя, Румынія і інш., ня кажучы ўжо аб Японіі і, урэшце, Амэрыцы, — далучаліся да ваюючых варожых коаліцыяў, і — „самазабойства Эўропы“, паводле крылатага выражэньня праф. Бодуэна дэ-Куртэнэ, пачалося...

Пачалося і трывала — яўнае, актыўна-збройнае, агнёва-крывавае — без перадышкі блізу пяць поўных гадоў...

Прадаўжаецца—ў напалову-пасыўнай, скрытай форме—аж да нашых дзён,—ужо новыя пяць гадоў пасьля заключэньня „міру“...

Няведама нават, калі гэтая скрытая „вайна ў часе міру“ скончыцца!

У некаторых месцах Эўропы, як у Рурскім абшары, як на ўсходняй, ці паўночнай граніцы Польшчы, а можа дзе яшчэ бліжэй,—ня скончыліся нават яшчэ запраўдныя „ваенныя падзеі“, прадстаўляючы беспасярэдні працяг Вялікае вайны...

Усюды ў Эўропе тлее,—а ў нашай усходняй частцы дык папросту палае! — агонь ненавісьці, які штомінутна можа выбухнуць новым агульным пажарам...

„Апошняя“ вайна, нажаль, аказалася тэй бурай, крывавыя параваньні каторай, уздымаючыся ізноў да неба, гатуюць новую навальніцу, якая распачне мо' новы доўгі пэрыад бураў.

Народы, ці ўрады іх, — не даваяваліся яшчэ да канца...—вось сумны вынік усіх тых нячуванавялікіх ахвяраў і стратаў Вялікай вайны, якімі Эўропа заплаціла ўжо за нейкую страшэнную абмылку, ці праступленьне...

---

Скуль-жа наляцела на Эўропу гэткая крывавая хмара? якая запраўдная прычына вайны?..— Гэта-ж трэба добра разабраць і ўцяміць народам, каб, калі гэта магчыма, не рабіць больш самазабойчых „абмылак“, перашкодзіць паўтарэньню страшэннай для іх бяды.

Чым была выклікана вайна?

Калі мы на гэтае пытаньне будзем адказываць з пункту гледжаньня паасобных дзяржаў, дык адказаў будзе столькі, калі ня больш, сколькі гэтых дзяржаў кінулася ці ўцягнулася ў вайну.

Нямеччына імкнулася праз вайну — „крывёй і жалезам“—„здабыць сабе належнае ёй месца пад сонцам“, — а перадусім дабіцца „раўнаправія на моры“, калі не панаваньня на ім, якое да вайны яна ўжо і без вайны паступова вяла шляхам культурна-эканамічнай канкурэнцыі.

Англія, страшэнна баючыся гэтай нямецкай канкурэнцыі, якая пагражала найбольш ёй, бо біла ня толькі ў яе дабрабыт, але і ў самыя падставы яе істнаваньня, як найвялікшай, пануючай на моры і ў сусьветнай таргоўлі дзяржавы, — імкнулася да стварэньня коаліцыі, якая-б—шляхам вайны—„аслабіла“ Нямеччыну.

Францыя, у нейкім трагічным захопленьні, кінулася ў „няўхільную вайну рэваншу“ (помсты за паражэньне ў 1871 г.), каб праз магутныя, загары ўложаныя яе спрытнай дыпляматыяй — як-раз на гэты „шчасьлівы выпадак“—саюзы і паразуменьні (з Расеяй і Англіяй) вырваць назад ад Нямеччыны захопленыя 40 гадоў таму, калісьці чыста нямецкія, але напалову афранцужаныя ўжо правінцыі.

Расея кінулася ў рызыку вайны, каб вызваліцца ад векавой нямецкай каманды, каб, разваліўшы Аўстрыю, дакончыць сваю „гістарычную місію“—„зьбіраньня Рускай Зямлі“ і каб захапіць яшчэ і той „Цар—град“, аб якім лятуцеў яшчэ Святаслаў, ды які разам з праліvамі, можа, быў і вельмі патрэбны Расеі, але ніколі да яе не належаў...

Кожная дзяржава знайшла свае мэты, свае імкненьні, якіх і пачала дабівацца аружнай сілай.

I калі судзіць па кіраваўшым тады публічнай думкай газэтам, дык кожная дзяржава ня толькі лічыла сваё ўчасьце ў вайне, свае мэты, сваю справу — найсправядлівейшымі, амаль не сьвятымі, але дзеля гэтага і йшла на вайну, кідаючы дзеля няпэўнае перамогі, але на пэўную сьмерць, мільёны людзей,—ішла, як на сьвята, захопліваючыся хворым энтузіязмам забойства і самазабойства...

Кожная з ваяваўшых эўрапэйскіх дзяржаваў ваявала дзеля таго, каб штось захапіць, здабыць, вырваць у другой; кожная верыла ў перамогу над ворагам—канкурэнтам, якога „жывую сілу“ (гэта-ж значыць жывых людзей-жаўнераў!) вайна давала маральнае, „рэлігійнае“ асьвяшчонае права „зьніштажаць“ усімі магчымымі спосабамі і засобамі нябывала разьвіўшагася ў Эўропе за апошнія часы венна-тэхнічнага генія...

Гэты дзіўны для нармальнай, запраўды рэлігійнай псыхікі энтузіязм і оптымізм ідучага на сьмерць і на забойства бліжняга самазабойцы — вось агульнае зьявішча ў Эўропе — ў пачатку і першыя месяцы вайны!.. Гэтую псыхічную загадку, гэтую запраўдную псыхічную хваробу кіраваўшых сьветам,—як кажуць, імпэрыялістычных,— вялікіх дзяржаў якраз і трэба вытлумачыць сабе да канца, каб апошні...

прэм'ера з абурэньнем, як скіраваны проці Францыі і — руйнуючы адразу ўсю працу паразуменьня ў Лізе паміж дэлегатамі французскім і англійскім.

У кожным разе, ня кажучы аб іншым, — добрая ілюстрацыя да „сардэчнага паразуменьня“ абодвух прэм'ераў!

## Даверые нямецкаму ўраду.

На паседжаньні нямецкага парляманту прыняты бюджэт і адкінута большасьцю 127 гас. проці 52 прапазіцыя нямецкай Народнай партыі выразіць недаверые ўраду Маркса. За недаверые галасавалі людоўцы і камуністы. Нацыяналісты ўстрымаліся.

## Дзесяцілецьце забойства Жорэса.

31-га ліпня ў Парыжу мае адбыцца вялізарнае паміналньне забітага 10 гадоў таму—якраз напярэдадні выбуху вайны — знамянітага правадыра французскіх сацыялістаў Жорэса.

Як ведама, Жорэс усемі сіламі стараўся перашкодзіць выбуху вайны, дамагаючыся паразуменьня паміж французскімі і нямецкімі сацыялістамі... І за гэта быў забіты нейкім... французскім „патрыётам“.

На ўрачыстасьць запрасілі і нямецкіх сацыялістычных лідэраў...

## Перамена палітыкі Японіі.

Англійскія газэты падаюць, што Рада міністраў Японіі пастанавіла рашуча зьмяніць палітыку адносна да ССРР. Японскі ўрад схіліўся да прызнаньня ССРР.

## Змова проці караля і Пашыча ў Югаславіі.

З Вены падаюць, што ў Белградзе выкрыта цэлая шырокая змова, якая мела мэтай забойства караля і яго прэм'ера Пашыча. Галавой замахоўцаў зьяўляецца нач. расейскага дэпартаманту мініст. загран. спраў Тарашэвіч, які быццам падтрымлівае адносіны з бальшавікамі.

## Раскол у партыі харвацкіх незалежнікаў.

Югаславянскія газэты пішуць, што, калі старшыні парляманту, Іовановічу, удасца стварыць урад, дык трэба спадзявацца расколу партыі харвацкіх незалежнікаў, большасьць якіх быццам нездаволена тым, што іх правадыр Радзіч увайшоў у III Інтэрнацыянал.

## Новы ўрад у Грэцыі.

Урадавы крызіс у Грэцыі скончыўся ўтварэньнем новага габінэту.

Як ведама, выбары ў грэцкі парлямант праходзілі пад уражэньнем краху манархізму і далі агромную пераваґу прыхільнікам умеранага рэспубліканца Вэнізэлёса.

Але гэты знамяніты правадыр грэцкага народу, атрымаўшы ўладу ў Грэцыі, разыйшоўся з ваенна-радыкальнымі групамі, меўшымі сілу ў народзе, у справе абвешчаньня рэспублікі: радыкалы трэбавалі абвешчаньня рэспублікі парляманам, Вэнізэлёс стаяў за плебісцыт (ўсенароднае галасаваньне).

Радыкалы перамаглі, і Вэнізэлёс пакінуў і ўладу і край.

Радыкалы стварылі ўрад і правялі праклямаваньне рэспублікі праз парлямант з пацьверджаньнем плебісцытам. Але створаны радыкаламі ўрад аказаўся непрацаздольным: ён вельмі многа абяцаў, але мала рабіў.

Новы ўрад складаецца ізноў з адных толькі „вэнізэлістаў“, з быўш. старшынёй парляманту Софулісам на чале.

## Рэвалюцыя ў Бразыліі.

Весткі аб бразыльскай рэвалюцыі — вельмі спрэчныя. Паводле адных (урадавых?) урадавыя войскі аблягалі сталіцу паўстаўшага штату Сан-Паолё, але апор паўстанцаў зламаць ня маюць сілы. Паводле другіх—армія апошніх ужо ідзе аж на сталіцу ўсей фэдэрацыі.

Аб характары самай „рэвалюцыі“ таксама весткі—няясныя. З Лёндона падаюць, што правадыр паўстанцаў, генарал Лёнэц, маніцца аб'явіць у Бразыліі ваенную дыктатуру падобна гішпанскай.

# ХРОНІКА.

**Нацыянальная палітыка на чыгунцы.** Мы атрымалі тэкст вельмі цікавага цыркуляру дырэкцыі дзяржаўных чыгунак у Вільні з 22 красавіка 1924 г. № 23/239 да ўсіх установ у межах віленскае дырэкцыі, якія датычыць справы прыйманьня на службу асоб „непольскаго происхожденія“. Вось яго зьмест:

„У мысьль загаду Прэзэса Дырэкцыі падаецца дзеля ведама і точнага выпаўненьня, што працаўнікоў няпольскае нацыянальнасьці (праваслаўнага вызнаньня), працуючых на адрэзках, якія знаходзяцца на ўсходзе ад лініі Лунінец-Вільня і на гэтай лініі, а такжа на адрэзку Вільня-Горадня ўключна і на ст. Граево, калі яны не абняты загадам аб перамяшчэньні іх на захад, — належыць пакінуць надалей у дасюлешніх мясцох працы ажно да часу выхаду іх дарогай натуральнага адплыву (сьмерці). Адначасна **рашуча забараняецца прыймаць праваслаўных** на памянёныя адрэзкі — ці то новых кандыдатаў, ці дарогай перамяшчэньня з другіх месц працы.

„Дапускацца будуць толькі зусім выключныя прыпадкі, на якія трэба атрымліваць кожын раз дазвол на падставе індывідуальных прапазіцыяў, падаваных з далучэньнем абаснаваных матываў і асабістых актаў прапанаванага кандыдата.

„Гэты загад не датычыцца фізычна працуючых работнікаў—дарожных, варштатавых і складаў апалу“.

Падаем без камэнтарыяў....

**У Віленскай Праваслаўнай Духоўнай Сэмінарыі.** „Słowo“ падае вестку, што 24 ліпня віленскі праваслаўны архіяпіскап Хвядос паведаміў урад праваслаўнае сэмінарыі ў Вільні аб звальненьні архімандрыта Піліпа з становішча рэктара сэмінарыі ад.... 9 красавіка г. г.!

Відаць, доўга ў гэтай справе цягнуліся перагаворы між духоўнай і сьвецкай уладай....

**Аб перасылцы грошы ў ССРР.** Роста публікуе гэткае паведамленьне, важнае для ўсіх, хто мае блізкіх людзей у ССРР:

„З прычыны зьявіўшыхся ў заграцічнай прэсе вестак аб істнаваньні быццам то нейкіх труднасьцей у атрымліваньні перасыланых пераводамі грамадзянам ССРР з заграніцы сум, Народны Камісарыят Фінансаў афіцыяльна абвяшчае, што атрымліваньне заграмічнае валюты па заграмічным пераводам ССРР нічым не абмяжовываецца. Пераводы выдаюцца адрасатам у-ва ўсіх пунктах ССРР у якім-хоч разьмеры бяз вычатаў і ніякімі налогамі не обкладаюцца“.

## Правілы прыёму у вышэйшыя вучэбныя установы Б.С.С.Р.

У 1924-25 вучэбным годзе прыймо будзе рабіцца ў наступныя Вышэйшыя Вуч. Установы Радавае Беларусі:

I. **Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт:** а) Мэдфак, б) Пэдфак, в) Фон.

II. **Менскі Сельска-Гаспадарчы Інстытут.**

III. **Горацкі Сельска-Гаспадарчы Інстытут.**

Паступаючы ў Вуз падае аб гэтым на імя камісіі па прыёму таго Вуз'у, які ім выбраны (для нямаючых камандыроўкі), ці ў які ён камандыруецца адпаведнай арганізацыяй, заяву з паказаньнем факультэту ці аддзяленьня Вуз'у, на якім жадае вучыцца.

Да гэтае заявы далучаецца:

а) Дакумант аб узросьце (мэтрыка і г. д.).

б) Дакумант аб адносінах да вайсковага абавязку (для мужчыны).

в) Дакумант аб асьвеце (за адсутнасьцю гэткага далучаецца асобная спраўка аб атрыманай асьвеце).

г) Дзьве фатаграфічныя картачкі.

д) Камандыровачнае пасьведчаньне (для камандыруемых).

е) Зацьверджаная анкета (для камандыруемых арганізацыяй, якая дае камандыроўку. для іншых — партыйнымі, прафэсыянальнымі ці савецкімі арганізацыямі).

Дакумэнты, паказаныя пад літарамі „а“, „б“, „д“, „і“, „е“ далучаюцца ў арыгіналах ці зацьверджаных копіях.

Прыём заяваў будзе рабіцца канцэлярыямі Вуз'аў з 10-га ліпня да 15-га жніўня; **пасьля 15-га жніўня ніякія заявы аб прыёме ні ад каго прымацца ня будуць.**

Усе асобы, скончыўшыя школы 2-й ступені і агульна-асьветныя курсы, сямёхгодкі і іншыя роўныя ім па курсу вучэбныя ўстановы, здаюць папярэдні экзамен у абхваце праграмы рабфаку па беларускай і расейскай мовах, матэматыцы, фізыцы, прырода-знаўству і грамадзяназнаўству.

Асобы, якія будуць камандыраваны Віцебшчынай, Гомельшчынай і Смаленшчынай, ад калёквіуму па беларускай мове звальняюцца і залічаюцца ўмоўна з тым, што здадуць колёквіум у працягу першага акадэмічнага году.

Экзамены адбудуцца з 20-га жніўня да 5-га верасьня. Ня трымаўшыя ў працягу паказанага часу экзаменаў у Вуз'ы ў 1924 г. прыняты ня будуць.

## Весткі з вёскі.

### Жыцьцё чыгункі.

*Віленская дырэкцыя, Баранавіцкай дыстанцыі, Гарадзейскага адступу.*

Віленская дырэкцыя прыслала да нас нядаўна майстра з Галіччыны. Вось паслухайце, што за парадкі ўводзіць у нас гэты пан. Як вядома, у кожнага служачага-чыгуншчыка ёсьць каля чыгункі невялічкі кавалак сенажаці і орнае зямлі. Некатарыя сенажаці служачыя зрабілі з орнага поля, сеючы на ім розныя кармавыя травы. За гэтыя сенажаці яны плоцяць у казну вядомую лічбу злотых. Але сёлета новаму майстру прышло ў галаву адабраць сенажаці ў служачых, якім па праву прыналежаць гэтыя сенажаці, усё роўна, як і ўсякая другая маемасьць у хаце. Адбіраючы іх у служачых майстар аддае іх на часьці касіць сялянам. Скасіўшы сенажаць селянін аддае часьць майстру (майстар перапрадае салдатам, або жыдам), а рэшту бярэ сабе.

Што-ж астаецца служачым?...

А служачым астаецца вывясьці з хлева астатнюю кароўку на рынак. Бо самжа ён ня ляжа ёй пад мызу. Цяпер служачыя гутараць, быццам то майстар хоча адабраць у іх і пасевы, якія толькі ёсьць на казённай зямлі...

Кажуць, што і жаліцца няма куды, бо дырэкцыя ведае, каго і куды пасылае! Пры тымжа майстар для дырэкцыі—гэта ўсё роўна, што для чалавека рука. Нельга чалавеку сказаць, калі ён б'ецца: „Прымі свае рукі, каб яны ня біліся“...

Аднак, я бяру на сябе сьмеласьць давесьці аб гэтым да ведама дырэкцыі. Бо відаць, што яна роўна нічога ня ведае, што у нас тут робіцца. І з свайго боку я раджу служачым прасіць нашых паслоў злажыць у Сойм інтэрпэляцыю п. міністру чыгунак. Пры тымжа, ня гледзячы на тое, што ўсюды заведзены 8 гадзінны дзень працы, у нас служачы працуе па 9 гадзін. А праца, я ўжо пісаў, самая катаржная.

**А. М. Санеўскі.**

# З УСХОДНЯЕ БЕЛАРУСІ.

## Аб'яднаньне чыгунак Беларусі.

Па тэрыторыі БСРР праходзяць тры чыгункі: Заходняя, Маскоўска-Беларуска-Балтыцкая і Арлоўска-Віцебская; апрача таго, вучасткі паўночна-заходняй, паўднёва-заходняй і „Акцябрскай“ чыгунак.

Цяпер паўстала пытаньне аб аб'яднаньні ўсіх чыгунак Беларусі пад адзіным Упраўленьнем.

Прымаючы гэта пад увагу, Эканамічная Нарада Беларусі пастанавіла лічыць гэтае аб'яднаньне мэтазгодным.

Пытаньне аб уключэньні ў аб'яднаньне асобных спрэчных вучасткаў, як Брянск, Полацк — Ідрыца і Полацк—Нэвель даручана Дз. Плянавай Камісіі распрацаваць дадаткова.

Экан. Нар. выказалася за тое, каб і праўленьне і Упраўленьне аб'яднаных чыгунак знаходзілася ў межах Беларусі.

## Беларускія падручнікі.

У хуткім часе будзе падгатавана да друку хрэстаматыя для другое групы сямёхгодак і пачатковых школ на беларускай мове, згодна з камплекснай сыстэмай выкладаньня і новымі праграмамі для працоўнае школы Дзяр. Вуч. Савету РСФСР. Кніжка мае быць разьмерам каля 20 аркушаў і з малюнкамі.

## Курсы драматычных і мастацкіх гурткоў.

Робяцца падгатоўчыя крокі да арганізацыі 3—4 тыднёвых курсаў па перападрыхтоўцы кіраўнікоў драматычных і мастацкіх гурткоў.

## Прыезд этнографа Сяржпутоўскага.

У Менск прыехаў вядомы беларус-этнограф А. К. Сяржпутоўскі, які ўвесь летні час мае аддаць працы па зьбіраньню этнаграфічных матар'ялаў.

## Сяляне за родную мову.

**Віцебшчына** павольнымі крокамі, але паступова пасоўваецца ўперад у сэнсе беларусізацыі. Там, то сям сярод вясковага настаўніцтва, а таксама і сярод вучнёўскай моладзі закладываюцца гурткі беларусазнаўства, якія працуюць з захапленьнем і даюць карысьць. Вось вынікі іхняй працы. Сяляне Кузьняцоўскай воласьці, Віцеб. пав., на агульным сходзе зрабілі пастанову, каб з наступнага вучэбнага году вучылі дзяцей іх на роднай мове.